Людміла Андзілеўка

# КЛЮЧ У БОЦІКУ

## (З жыцця маленькіх чалавекаў)

Чытанка для дзяцей і дарослых

Мінск
«Кнігазбор»
2017

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
А65

Малюнкі аўтара — Людмілы Андзілеўка

**Андзілеўка, Л.**

А65 Ключ у боціку (З жыцця маленькіх чалавекаў) : чытанка для дзяцей і дарослых / Людміла Андзілеўка. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 48 с.

ISBN 978-985-7180-08-0.

Лепшай магчымасцю пазнаць жыццё з'яўляецца магчымасць паглядзець на свет праз душу другога чалавека. Калі ж гэты чалавек — дзіця, тваё дзіця, магчымасць трансфармуецца ў патрэбу, абавязак. Аўтар прапануе зірнуць на паўсядзённую рэальнасць вачамі малюкоў, прыслухацца да тонкіх струн іх душы.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-08-0**



# КАЛІ ДАРОСЛЫЯ БЫЛІ МАЛЕНЬКІМІ

## Без мамы

Ціша маленькі хлопчык. Яму ўсяго толькі год і дзесяць месяцаў. Нават уявіць немагчыма! Зусім нядаўна яго не было на свеце. Дзе ж ён тады быў? Ціша ўсё разумее. Усё, усё! Толькі выказаць пакуль што не многае здольны. І ў той міг, калі яго не разумеюць дарослыя, а Цішу штосьці вельмі хвалюе, ён пачынае нервавацца. У яго чырванее тварык, у грудках пячэ, насупліваюцца броўкі, вусны дрыжаць… У такі момант Ціша забывае, што ён хлопчык, што дарослы — як кажуць мама і тата. Ён пачынае горка плакаць, калі патрэбных слоў не хапае.

Вось і зараз такія дні. Цішу сумна, кепска, ён змаркоціўся па сваёй маме. Мама кудысьці пайшла. Яму тлумачылі бабуля з татам — куды, і што прынясе яна, як вернецца дамоў, — толькі Ціша запамятаў, бо яму гэта зусім не цікава. Мамы няма! А без мамы Цішу вельмі кепска.

Ціша захварэў, у яго жар, ён не ўстае з ложка, не гуляе з цацкамі. А вечарам прыйшоў чужы дзядзька, доўга, уважліва разглядаў яго. Потым дастаў якіясь бліскучыя рэчы. Ціша хацеў бы з імі пагуляць, але… Дзядзька балюча ўкалоў Цішу чымсьці вострым! Ад крыўды Ціша заплакаў. Бо тата з бабуляй былі заад-

но з чужым дзядзькам. Шапталіся з ім, усміхаліся яму, замест таго каб Цішу абараняць… Дзядзька прыйшоў і наступным вечарам.

За гэтыя дні Ціша пазнаў шмат новых слоў: хвароба, кашаль, тэмпература, жар, укол, доктар, шпрыц. Але вымаўляць іх Ціша не хацеў. Словы яму зусім не падабаліся.

# Новае слова

І вось, нарэшце, прыйшла мама. Такая прыгожая, вясёлая! Яна схапіла Цішу на рукі і доўга пяшчотна цалавала. Казала, што вельмі сумавала без яго. Ціша хацеў запытацца, навошта мама яго пакінула, чаму доўга не вярталася дамоў? Хацеў расказаць ёй пра чужога дзядзьку, пра ўколы. Але яму спатрэбілася б шмат-шмат слоў, якіх Ціша не запомніў.

Разам з мамай прыйшоў і тата. Ён трымаў у руках якісь скрутак. Як раптам скрутак гэты заверашчаў. Тата паклаў яго на ложак. Дарослыя абступілі ложак з усіх бакоў і пачалі разгортваць пялюшку за пялюшкаю. У вораху пялюшак ляжаў зусім маленькі чалавечак. Яго ножкі і ручкі замітусіліся.

— Гэта дзяўчынка, твая сястра, — сказала мама. — Яе завуць Лена. Ты цяпер для Лены старэйшы браток.

Ціша быў нібы ў сне. Не разумеў слова «сястра». Не разумеў, што так радуе дарослых, чаму яны разглядаюць дзяўчынку, усміхаюцца і зусім не глядзяць на Цішу. Ён не зацікавіўся тым, што ляжала на ложку ў прасцінках. Затое аж устрапянуўся, калі пачуў, што мама строга выгаворвала тату.

— Навошта было адразу згаджацца на ўколы?! Ён проста тужыў, зжудзіўся, ад таго і занямог. Хлопчык так апудзіўся доктара, што нават адзічаў.

Вось! Гэтых слоў не хапала Цішу! Іх шукаў ён і не мог знайсці, каб выказаць, што адчувае.

Потым мама прытуліла дзяўчынку да сябе і доўга сядзела з ёй на руках, тая чмокала і ціхенька пасопвала, мама ласкава ўглядалася ў зморшчаны тварык.

І Цішу зноў стала сумна. У горле казытала, у грудках трымцела, зашчыпала ў вочках. Хацелася плакаць, але ён цярпліва трымаўся. Бо ўжо ведаў, як бывае па-сапраўднаму кепска. Калі няма мамы, калі ніхто за цябе не заступаецца, не скажа патрэбных слоў.

Напэўна, і мамай трэба «дзяліцца», падумаў Ціша. Мама так казала, калі на вуліцы ён не даваў сваіх цацак другім дзецям. Ціша паспрабаваў змірыцца… Няхай мама трымае на руках маленькую дзяўчынку, а тата возьме на рукі яго, «старэйшага брата» Цішу… Ды толькі тата падышоў і ўзяў на рукі не яго, а дзяўчынку, пачаў яе люляць. Ціша забыўся пра ўсё! Што хлопчык, што дарослы, што старэйшы брат. Ён кінуўся да таты, стаў з усіх сіл тузаць яго за штаніну.

— Пакадзі! Пакадзі Лену каватку! Зямі мане на учкі! Я маленькі!

— Ты таксама хочаш на ручкі? — запытаўся тата.

— Ён хоча, каб ты не браў Лену, — усміхнулася мама.

Тата падняў Цішу і некалькі разоў падкінуў яго пад самую столь.

Потым распалілі грубку, Ціша глядзеў, як над чырвоным вуголлем трапешча полымя блакітнымі, фіялетавымі, жоўтымі, зялёнымі языкамі. Ціша хацеў паназіраць за агнём, але вочкі не слухалі яго, зліпаліся. Ён падумаў: магчыма, кожнаму хлопчыку трэба мець сястру? Сястра. Ён паўтарыў незнаёмае слова і не мог зразумець — падабаецца яно яму ці не. Сястра… Сяст-ра-а.

## Аварыя

Зіма. Свішча вецер за акном. Шкло размаляваў прыгожымі ўзорамі мароз. На вуліцы сцюдзёна. Цішу ў такія дні не вадзілі ў садок. І назаўтра таксама яго пакінулі дома з мамай, бабуляй і маленькай дзяўчынкай. Маме было не да Цішы, увесь час яна займалася немаўлём. Цішу хацелася бегаць, дурэць, але мама

прыкладала да вуснаў палец і казала: «Цс-с. Сястра спіць». Ціша не дакучаў, не капрызіў, нават дапамагаў. Выбег на веранду, каб пазваць маму, калі яна развешвала мокрыя пялёнкі на прасушку і не пачула, што ў калысцы прачнулася дзяўчынка.

— Мама, твая Лена паціць. Дзі усьпакой.

На падлозе стаяў пусты чамадан ад мамінага акардэона. Ціша зрабіў з яго сапраўдны самазвал. Ён ціснуў на газ, рабіў крутыя павароты, надзімаў колы, даваў па тармазах, закручваў балты, гнаў на ўсёй хуткасці па калдобінах. Як раптам: дыр-дыр-дыр… бабах! Згарэў рухавік! Трэба неяк ратаваць машыну.

Мама калыхала сястрычку і зноў прыклала палец да вуснаў — цсс…

Ціша падышоў да яе на дыбачках, пакратаў за плячо.

— Тавалісь. Пладай новы матол, — шэптам папрасіў ён.

Мама павярнула здзіўлены твар да «незнаёмага вадзіцеля».

— Што?

— Тавалісь, пладай новы матол. Во пяцёлка лублей, — яшчэ цішэй паўтарыў Ціша і падаў на далоні некалькі гузікаў.

Мама пашукала штосьці вачамі, узяла з тумбачкі поліэтыленавую ўпакоўку так і не распакаваных шпрыцаў, выкінула з іх іголкі — паказала вадзіцелю.

— Такой маркі — гадзіцца?

Ціша недаверліва наструніўся. Потым дамаляваў у думках неабходныя дэталі, радасна заключыў:

— О! Гэта зы і ё мой матол!

# Новы дом

Хутка сям'я Цішы пераедзе ў новы дом. Яго для чатырох сямей будуе тата. У Цішы тата інжынер-будаўнік. У выхадны дзень мама з татам узяліся клеіць у дзіцячым пакойчыку шпалеры. Яны ўзялі з сабой і Цішу. А вось сястрычку пакінулі дома з бабуляй. Цішу вельмі хацелася дурэць, гуляць, ён чапляўся да бацькоў, перашкаджаў працаваць.

— Не мітусіся пад нагамі. Знайдзі сабе занятак. Ты ўжо дарослы, — сказаў тата. Сапраўды, Цішу нядаўна споўнілася чатыры гады.

Ціша знайшоў: узяў пэндзаль і пафарбаваў рудым колерам, прызначаным для падлогі, блакітную сцяну ў кухні. Потым пафарбаваў свае чаравікі. Чамусьці тата не пахваліў яго, пачаў сварыцца, а мама выправіла Цішу на вуліцу.

— Нікуды далёка не хадзі. Гуляй тут у двары, ля дома, — загадала яна.

Тата праз хуткі час выйшаў паглядзець, чым займаецца сын. Хлопчык гуляў босы, у адных панчошках, на якіх валёнкамі наліп брудны снег.

— Дзе твае чаравічкі?

— Утапіліся ў балоце.

Ля новабудоўлі стаялі гразкія калюжыны, іх Ціша, вядома ж, не мог не памераць.

# Вучыся лічыць

Падрастаў Ціша, расла на вачах і яго сястрычка Лена. Яна нават многае разумела з гаворкі. Шмат слоў навучылася вымаўляць сама, але яны гучалі смешна і міла. «Муцікі нет!» — казала яна і пераключала тумблер тэлевізара ў самы нервовы момант, калі тата глядзеў хакей. «Татаць ніцькі», — прасіла Лена і несла свае кніжачкі. «Ой-ёй-ёй! Неня баіця іка!» Ні мама, ні тата, ні Ціша не разумелі, каго баіцца Лена. Яна старалася па-свойму патлумачыць — дарэмна. Дзяўчынка прынесла кніжку казак і тыцнула пальчыкам у малюнак, дзе ў ступе ляцела Баба Яга: «Ню, ясьна? Во Іка!»

Ціша лузгаў семкі.

— Колькі табе даць? — запытаўся ён у сястры.

— Фтадой.

— На табе дзве.

Праз хвілінку зноў пытаецца.

— Колькі табе яшчэ даць семак?
— Фтадой.
— Гм, на яшчэ дзве.
Ціша зноў:
— Колькі цяпер табе даць семак?
— Фтадой…
— Ну што ты ўсё фтадой, ды фтадой! Скажы хоць пяць, сем…
— Босі не ўмею…

# Дык я і даў

На лета з далёкага горада Тальяці да Цішы ў новую кватэру прыехалі госці. Брат Жэня, яго тата з мамай і маленькая сястрычка, якую таксама звалі Лена.

Жылі разам у новай кватэры: бабуля, бацькі Цішы, бацькі Жэні і ўсе дзеці. Жэня быў старэйшы за Цішу на год. Ён пасябраваў з суседскімі хлопчыкамі. А вось між сабой браты не заўсёды ладзілі.

У Цішы быў новы трохколавы веласіпед. За яго ледзь не кожны дзень хлопчыкі змагаліся. Калі не жадаў катацца Ціша, то не жадаў чамусьці катацца і Жэня. І наадварот, як толькі Ціша сядаў за руль і пачынаў круціць педалі, Жэня імкнуўся адабраць веласіпед. Так было б і з Цішам, ды бацькі забаранілі яму сварыцца з госцем. І веласіпед свой Цішу кожным разам прыходзілася саступаць.

Кватэра іх месцілася на другім паверсе дома, каб выйсці на вуліцу, трэба спусціцца стромкай лесвіцай на ганак, дзе і стаяў «веласіпед раздору». Браты наперагонкі з’ядалі сняданак ці абед і стоць галавой несліся крутой лесвіцай уніз, каб першымі схапіцца за руль. І адразу ў тамбуры разгаралася валтузня. Пакуль не ўмяшаюцца дарослыя, хлопчыкі ірвалі ровар — хто сабе.

— Што ў вас зноў не дзеліцца? — запыталася мама, глянуўшы з прачыненых дзвярэй на ганак.

— Жэнька адбірае ў мяне веласіпед, — пажаліўся Ціша.

— Ну дык дай яму, — сказала мама і зачыніла дзверы.

Але праз хвіліну ёй прыйшлося бегчы ўніз — Жэня зароў на ўвесь дом.

— Што здарылася?

— Цішка б’ецца!

— Чаму ты б’ешся?

— Ты сама дазволіла! Ты сказала — дай яму! Ну дык я і даў!

## «Ужасцік»

Дзеці вельмі любілі глядзець дыяфільмы. Калі гэта быў не вечар, а дзень, для зацямнення ў калідоры занавешвалі шкляныя дзверы, каб не праходзіла святло з вокан другіх пакояў. Дзеці сядалі на падлогу і накіроўвалі промень рэпрадуктара на прасціну, якую і чаплялі на дзверы. Там праяўляўся кадр — каляровы, яркі! Хтосьці з дарослых браўся чытаць тэкст, але гэтым летам і самі Ціша і Жэня нядрэнна, хоць і па складах, маглі прачытаць кароткія радочкі пад кадрам. Ды змест амаль усіх стужак дзеці даўно ведалі на памяць, так што адзін перад адным наперабой цытавалі тэкст. Паглядзеўшы колькі самых любімых стужак, усяго іх у Цішы было аж дзве кардонавыя каробкі з-пад абутку, дзецям хацелася глядзець страшны фільм: «Прыгоды Тома Соера». Герой гэтага фільма, хлопчык, каб пазбавіцца барадавак, ноччу хадзіў на могілкі, трымаючы ў руках дохлага ката.

У цёмным пакоі маленькім гледачам рабілася так страшна, аж перацінала дыханне. Здавалася: па кутках варушыцца штосьці жахлівае, хаваецца, цікуе за імі. Малыя аглядаліся, быццам Яно ўжо туліцца за спінай і вось-вось схопіць за плячо. У самы напружаны момант хтосьці з дзяцей знарок пачынаў палохаць. Крадком шчыкаў за бок суседа, кратаў за руку, нагу. Яшчэ горш наганяў жудасці. Усчынаўся такі гвалт і лямант, што ні разу не ўдалося даглядзець стужку да канца. Тое ж самае было і зараз. Жэня шапнуў на вуха Цішу, што за ўваходнымі дзвярамі хтосьці прытаіўся — праўда-праўда, стаіць! Сам бачыў. Напалохаліся

ўсе, але нікому не хацелася ў тым прызнавацца. І ў той жа момант ручка дзвярэй зарыпела. Лена падскочыла, абярнула стул на нагу Жэнькавай сястры, малая заплакала. Ціша ад страху закрычаў на Лену… У дзвярах стаяла бабуля.

— Тиша, не кричи так громко. Охрипнешь и будешь немой.

— А чый?

# Падман

— Пазычце ровара з’ездзіць у магазін, — просіць сусед.

— У нас няма веласіпеда, — адказвае мама.

— Чаму ты маніш? — здзівіўся Ціша.

— У нас няма веласіпеда…

— У нас ёсць веласіпед! Вунь, у хляве стаіць.

— Выходзіць, маню, — мама адчыніла дзверы хляўка і паказала суседу веласіпед… маленечкі трохколавік.

# Праверыў

Вясна прыходзіць па-рознаму. Бывае — шырока расчыніўшы дзверы і вокны. Бывае — асцярожна, доўга ступаючы, намацвае кожны крок: яна ледзь-ледзь кранае паветра, на дыбачках датыкаецца долу, дзень за днём вырываючы пакрыху свабоды ў зімы… У бруд ператварае сонца снегавыя даліны, але яму і апранаць іх у зялёнае ўбранства.

Мама купіла Цішу гумовыя боцікі, каб ён без перашкоды бегаў у мокрае надвор’е па вуліцы. Тым больш, што яму хутка споўніцца аж пяць гадоў. Спраў у хлопчыка процьма! Трэба паспець наламаць мяканькіх пухнатых «коцікаў», што пачалі вылузвацца з пупышак на вярбе. Трэба адсачыць жабак, як яны з зімы прачынаюцца, налавіць трытонаў у банкі з-пад кансерваў, а ў стаўку хутка пачнуць мітусню тоўстыя апалонікі.

Маці паставіла боцікі ля ўваходных дзвярэй, каб пасля садка сын прымераў абутак. Боцікі былі лёганькія, для цеплыні ног унутр устаўляліся касматыя, мяккія з блакітнымі адваротамі панчошкі. Боцікі — яркага аранжавага колеру. З бакоў на халяўках — малюнак ваўка і зайца з мульціка. Нямала прыйшлося за іх заплаціць.

Наступным жа вечарам выпала магчымасць апрануць абнову. Дарослыя выйшлі на гародчык спарадкаваць грады і кусты пасля зімы. Ціша бегаў ля іх, разглядаў садовы інструмент, асабліва яго цікавіў сцізорык — складны нож.

— Мама, калі будзе дождж — не хвалюйся, мае ногі не прамокнуць!

— Вядома — не.

— Мама, калі я па лужыне прайду, нічога дрэннага не здарыцца.

— Для таго і куплены боты.

— Трэба праверыць.

Праз нейкі час Ціша радасна паведаміў.

— Праверыў! Яны такія крэпкія! Ні за што не прамокнуць! Паглядзіце!

Хлопчык трымаў у адной руцэ ножык, у другой — невялічкі ярка-аранжавы кавалачак гумы. На мыску боціка, наскрозь, аж да самай шкарпэткі зеўрала дзірка.

# Філасаф

Ціша ад малку, як пачаў размаўляць, схіляўся да развагі. Самыя простыя з'явы яму бачыліся па-свойму. Прывычныя словы тлумачыў іншым сэнсам.

Вось ляціць у небе самалёт, пакідаючы за сабой хвастом белы пар.

— Паглядзі, мама, самалёт губляе аблокі, — дзівіўся двухгадовы хлопчык.

— А што гэта там вісіць у небе?

— Луна.

— А хто яе падвесіў?

— А машына з прычэпам двухкузнікам завецца?

— Вось гэта што такое? Дошка з нагамным кіраваннем? — упершыню бачыў трохгадовы Ціша скейтборд.

— Тата, ты вусы адпусціў? Грузінам будзеш?

— Мама, я такі гарманічны, такі гарманічны! — заключыў чатырохгадовы Ціша.

— Чаму ты так думаеш? — пыталася мама.

— Мне дзед гармонік сапраўдны купіў.

— Мама, а колькі дзяцей можа «выраджджацца» ў сям'і? Мільён можа быць? — пытаўся Ціхан у пяць сваіх гадоў.

— Не, мільён нарадзіцца ў адной сям'і не можа. А кожны год па дзіцятку можа нарадзіцца.

— Як?! А дзе нашы падзеліся? Мне ўжо пяць гадоў, а сястра толькі адна!

## «Батанік»

Групу дзіцячага садка, куды хадзіў Ціхан, вывелі пакатацца на санках. Садок месціўся на беразе возера. Старыя сосны стаялі ў кароткіх белых кажушках. І лісцвяныя дрэвы мароз апрануў не горш за хвою. Бярозы хілілі долу танюткія доўгія галіны, прыбраныя ў шэрань, нібы ў карункі. Яркае сонца сляпіла вочы. Мільярды іскрынак зіхацелі на рознакаляровай снежнай роўні возера.

Снегу было столькі, што можна схавацца за гурбы. Дзеці будавалі крэпасць, ляпілі снегавую бабу. Уздоўж берага разносіўся вясёлы звонкі смех. Шчокі малых зрабіліся пунсовымі ад марозу, як грудкі шустрых снегіроў, што тут стайкамі цвыркалі над кустамі шыпшыны.

Кожнаму хацелася кацiць з гары далёка-далёка, аж на сярэдзіну возера, схаваўшы ад усіх таемны страх. Дзесьці там унізе, пад тоўстым лёдам, — вада, рыбы, а магчыма, яшчэ і якiясь жудасныя тварыны. А ты смелы!

Санак не хапала, сабралася чарга. Раптам пачуўся адчайны плач.

— Што здарылася, Таня? — спытала Алена Уладзіміраўна.

— Дзімка па назе санкамі праехаў.

Дзеці засмяяліся. Таня ад крыўды яшчэ горш залілася слязьмі.

— Нічога смешнага няма, — заступіўся Ціша. — Вы што, не ведаеце: у чалавека ёсць нервовая сістэма, таму ён адчувае боль. У Тані таксама ёсць. Калі б не было ў нас нервовай сістэмы, мы б не адчувалі боль.

Дзеці засмяяліся яшчэ гучней. Тут ужо пакрыўдзіўся заступнік.

— Каб у чалавека не было нервовай сістэмы, ён лічыўся б не жывой істотай, — працягваў даводзіць сваё Ціша. — Давайце паспрабуем каму іншаму з вас прыціснуць нагу — пасмяецца ён тады?

Дзеці не сціхалі. Горш за ўсіх рагатаў Дзіма. Ён ужо прыцягнуў санкі на горку і артыстычна качаўся па снезе ад рогату. Тут Вову хтосьці піхнуў, ён паслізнуўся і ўпаў на Дзіму — з размаху, незнарок, ударыў рукой хлопчыка ў нос. Дзімка заплакаў — чырвоная кропля пацякла па вуснах. Напалоханыя дзеці сціхлі.

— Бачыце, і ў Дзімкі ёсць нервовая сістэма. А яшчэ ў чалавека, бачыце, — ёсць крывяносная сістэма. Дзімка, давай руку і ўставай хутчэй.

## Задача

— У садку Алена Уладзіміраўна казала, што на некаторых дзяцей зусім нельга «положиться», — Ціша пачаў пералічваць ненадзейных.

— Ты лепш раскажы пра сябе, — напомніла мама. — Ты спраўляешся?

— Гм! На нас яна ўжо даўно «положилась».

— А што гэта значыць?

— Не ведаю, — разгубіўся Ціша. — Ну, задачкі ж складаныя рашаем.

— Напрыклад?

— Вось якую задачу прыдумаў сам: «Я купіў у магазіне дзевяць сцёрак. І мая сястра Лена купіла сем сцёрак. Дома мы іх падзялілі пароўну. Колькі зараз сцёрак стала ў кожнага?»

— Выдатная задачка! Толькі навошта вам столькі ласцікаў?

# Не на ўсе пытанні ёсць адказ

Мама вечарам пасля садка катала Цішу на санках. Ліхтары не ўсюды гарэлі, і мама кажа:

— Там цемра, не паедзем туды. Страшна.

— Я з табой мама, не бойся.

Яны зрабілі круг вакол стадыёна. Па дарозе ім сустрэўся моцна нецвярозы чалавек. Ён ледзь-ледзь перасоўваў ногі і меў непрыемны выгляд.

— Чаму гэты дзядзька такі непрыгожы? — запытаўся Ціша ў мамы якраз у той момант, калі санкі міналі нецвярозага пешахода.

Мама хуценька адвезла санкі далей і ціха прамовіла:

— Сынок, так нельга гаварыць. Дзядзя мог пачуць твае словы, пакрыўдзіцца.

Ціша не дужа зразумеў, чаму дарослыя змовіліся між сабой хаваць праўду, калі яна такая відавочная. Але паслухаўся, цярпліва маўчаў. Яны зрабілі яшчэ адзін круг вакол стадыёна і зноў дагналі нецвярозага чалавека. Ціша з усіх сіл стараўся, маўчаў. Але мама чамусьці не заўважыла яго старання, не пахваліла Цішу. Калі санкі параўняліся з мінаком, Ціша прамовіў:

— Вось бачыш, мама, я ўжо не пытаюся ў цябе, чаму гэты дзядзька такі непрыгожы. — І ў яго голасе задрыжэў адчай, бо Ціша здагадаўся, што і на гэты раз мама не патлумачыць яму, чаму ж гэты дзядзька непрыгожы!

# Камфорт — не галоўнае

Дачакаліся выхадных і сталі збірацца ўсёй сям’ёй у госці да бабулі з дзедам у Глыбокае. Цішу не цярпелася хутчэй выправіцца ў вандроўку.

— Паехалі на аўтобусе!

— Не, нас завязе ў Глыбокае дзед. Ён абяцаў, хутка прыедзе.

Ціша нерваваўся, паглядаў у акно.

— Ну мам, давай лепш паедзем на аўтобусе!

— Чаму? На машыне куды спрытней.

— Ай, ГЭТУ дзедаву легкавушку ўсе машыны абганяюць. І грузавыя, і нават трактар.

# Рэаліі жыцця

Наступным разам у Глыбокае і сапраўды прыйшлося ехаць аўтобусам. Задаволены Ціша круціўся ад радасці, не мог уседзець на месцы. Была зіма: цёплая вопратка, футраная шапка, валёнкі. Ціша спацеў, па ілбе цёк пот.

— Ты зусім упарыўся.

— Ой! Штосьці поўзае па галаве і кусаецца, — на ўвесь салон паведаміў пасажыр. Маці пачырванела.

— Гэта галава твая спацела — пот шчыпле. Пасядзі крышку спакайней.

— А куды ж ты едзеш, хлопчык? — запыталася ў яго жанчына, што сядзела праз пераход.

— Да бабулі ў Глыбокае.

— А ці ёсць у яе карова? — працягвала яна гамонку, каб дапамагчы сцішыць хлопчыка на нейкі час. — Малака ў яе адап’ешся. Любіш малако?

— Во — малака! — падняўшыся з сядзення, аб’явіў пасажырам Ціша, правёў рабром далонькі па горлу, паказваючы — пакуль малака. — Дзед на малаказаводзе працуе.

# Прагаварыўся

Кошка Мурка нядаўна акацілася. У яе чатыры маленькія камячкі — кацяняты. Ціша і Лена назіраюць, як яны кожны дзень мяняюцца, падрастаюць, вучацца самі хадзіць, есці.

— А наш беленькі Пушок ужо навучыўся піць малако са сподачка! — радасна паведаміў суседзям Ціша.

— Праўда? Дык пара яго забіраць да нас! Мы дамовіліся з тваёй мамай, як толькі пачне сам есці — адразу возьмем яго сабе.

— Ой! Не! Ён не ўмее есці сам! Зусім яшчэ не ўмее! Раніцай навучыўся, а цяпер ужо развучыўся.

# Школа

Ціхан пайшоў у першы клас. Яму ў школе падабалася ўсё: і ўрокі — там шмат новага пазнавалі дзеці. І сябраваць з новымі дзецьмі, якія не хадзілі ў садок разам з Ціханам, а прыязджалі з вёсак ў школу. Нават новенькая школьная форма яму падабалася. У ёй Ціхан выглядаў дарослым і сур’ёзным.

Аднойчы мама заўважыла, што Ціша стаў прыходзіць сумным, задумлівым.

— Што здарылася, сынок? Ты не хочаш ісці ў школу?

— Хачу.

— Чаму ж ты вяртаешся сумным? Цябе там хтосьці крыўдзіць?

— Не.

— Але ты сам не свой.

— Адрэж, мама, з майго берэта пупсік.

— Табе не падабаецца твой берэт?

— Падабаецца.

— А навошта яго псаваць?

— Мне падабаецца і берэт, і пупсік, і ў школе вучыцца, але старэйшыя хлопчыкі заўсёды стаяць у калідоры, калі я іду — хапаюць за пупсік і кідаюць берэт адзін аднаму.

# Хітры ход

Раніцай Ціша выправіўся разам з суседскімі хлопчыкамі ў школу. У яго на плячах вісеў ранец. У руках ён нёс торбачку з спартыўнай формай. Хлопчыкі міналі гаражы і раптам пачулі, як у кустах хтосьці скуголіць. Яны расхінулі кустоўе — там шкрэбаўся маленькі шчанюк. Рудзенькі, з белай плямкай на грудзях. Напэўна, хтосьці з жыхароў пасёлка бязлітасна знёс сабачаня з двара.

Кожнаму з хлопчыкаў вельмі хацелася забраць яго сабе ў дом. Але ў Дзімкі і Колькі брахаў на ланцугу Жук. У Ігара ў загоне сядзеў паляўнічы Іртыш. І ў Сашы з Сяргеем быў сабака.

У Цішы аж запякло ў грудзях. Ён не ведаў, ці дазволяць бацькі ўзяць сабачку. Ва ўсякім разе, на ўгаворы трэба час, а ён спяшаўся на ўрокі, хутка званок. Ціша папрасіў хлопцаў дапамагчы яму…

Маці крыху пазней ішла на работу якраз тым шляхам, якім прабягалі вучні раніцай. Яна таксама пачула візгат у кустах, падышла, расхінула галінкі. Там у пастцы сядзеў рудзенькі шчанюк. Хтосьці абклаў яго з усіх бакоў дошкамі так, каб сабачка не выбраўся і не збег прэч. А перад ім ляжала некранутая булка з кілбасой, яе мама сама прыгатавала Цішу на сняданак.

Мама вызваліла вязня і занесла сабачку ў дом. На абед прыехаў з работы бацька. Ён спачатку абурыўся.

— Яшчэ гэтага ендзы тут не хапала!

Сабачонак ад страху пусціў пад сябе ручаёк на палавічок сярод вітальні. Бацька рассмяяўся і падхапіў шчанюка. Паглядзеў у мордачку.

— Як цябе зваць?

— Вось вернецца са школы гаспадар, няхай называе.

# Фермер

Сямігадовы Ціша таропка злез з дарослага веласіпеда, кінуў яго пад ногі на ходніку перад самым уваходам у будынак музычнай школы, дзе працавала яго мама, падбег да яе класа, зірнуў у шчыліну прачыненых дзвярэй, паклікаў на калідор.

— Мам, дай, калі ласка, рубель.

— Навошта табе столькі грошай?

— Там такіх прыгожанькіх пеўнікаў і курачак прадаюць! Хачу купіць.

Маці сабралася злавацца, маўляў, колькі цацак бадзяецца без патрэбы і ўвагі — навошта новыя набываць? Ды і перарос Ціша даўно той узрост, каб з пеўнікамі гуляць. Зірнула ў вочы сына — там было столькі ўмольнай надзеі! Яна моўчкі вынесла маленькую сумачку, дастала грошы, падала маломў.

У цэнтры пасёлка на плошчы стаяла грузавая машына — «будка». Вакол яе таўклася процьма вясковага народу. Цёткі-дзядзькі, бабулі, дзяды і маладыя кабеткі з кошыкамі, каробкамі ад абутку чакалі сваёй чаргі. Прывезла ферма куранят на продаж: бройлераў, нясушак, качанят, гусачкоў, цацарак, індыкоў. Кожнаму не цярпелася схапіць першымі лепшых, удалейшых, крапчэйшых. Дамовіліся браць не больш за два дзясяткі ў адны рукі, каб хапіла ўсім, па магчымасці. Па столькі куранят і дзяліла ў латочкі для хуткасці памочніца прадавачкі. Сярод гэтага нервовага шумнага натоўпу стаяў малы хлопчык з поліэтыленавым пакетам у руках. То быў Ціша. Да яго звярнуўся дзед.

— Што ж ты кошык не прынёс? Гэдак куранят паціскаеш, задушыш.

— Не задушу, я акуратна паеду.

— Дык ты яшчэ і на ровары? Не гадзіцца так. Ну, прасі, твая чарга.

— Дайце аднаго пеўніка і адну курку, — папрасіў Ціхан жанчыну, што стаяла сярод клятушак і скрыняў высока ў кузаве машыны.

— Зараз я табе буду сарціраваць! — адказала прадавачка.

Чарга зарагатала рознымі галасамі.

— Во прыдумаў!

— Хто ж табе будзе разбіраць іх па пашпартах!

— Давай каробку! — запатрабавала жанчына з кузава і, забраўшы рубель з рукі хлопчыка, кінула ў поліэтыленавы пакет два жоўценькія камячкі.

Пакуль ішоў час, наблізіўся вечар. Маці вярнулася з работы, сына дома не знайшла. Чакала, хвалявалася, паглядала праз акно, ці не бегае па двары з суседскімі хлопчыкамі. Раптам бачыць дзіўную карціну: па дарозе ідзе Ціхан, веласіпед вядзе адной рукой, у другой руцэ ашчадна нясе пусты, ёй падалося, пакет. Побач крочыць дзед з кошыкам на спіне. Яны сур'ёзна размаўляюць. А на развітанне дзед нават падаў малому руку.

Маці назірала ў акно, як Ціхан прыставіў веласіпед да сцяны хлява, пачаў трывожна ўглядацца, мацаць штосьці рукой у сваім пакеце. Нарэшце ён узбег па крутых прыступках на другі паверх, зайшоў у кватэру.

— Вось яны! — радасным голасам паведаміў хлопчык.

— Што гэта? — не зразумела маці. Яна ж не сумнявалася, што рубель сын прасіў на чарговую цацку, заваднога кураня з бліскучым ключом у баку.

— Курачка і пеўнік.

— Ты купіў жывых?

Маці, вяртаючыся з работы, бачыла той агромністы натоўп ля машыны, яна нават уявіць не магла, што сярод гучнай чаргі таўчэцца і яе сын.

— Што ты з імі збіраешся рабіць?

— Гадаваць.

— Іх трэба кожны дзень даглядаць, паіць, карміць, пасвіць. Іх нельга ні на хвіліну пакінуць.

— Я буду сам за імі глядзець.

— Што ж, даглядай.

Ціхан дні тры ўважліва сачыў за кураняткамі, паіў з маленькага сподачка, сыпаў вараных круп на папяровую подсцілку, выносіў

пагуляць на сонечны муражок. Ён абгарадзіў дошкамі для сваіх камячкоў закутак у двары, накідаў ежы, дробнага пяску.

Аднойчы ён пабег глядзець, як хлопцы ганяюць на матаролеры. І адразу з яго галавы выслізнулі думкі пра куранят.

Праз акно маці ўбачыла, як суседскі шчанюк перакуліў дошкі, схапіў аднаго пісключка за шыю, пачаў душыць. Пакуль яна збегла з другога паверху, Ціша ўжо стаяў над нежывым жоўценькім камячком. Хлопчык нервова трос рукамі, па яго шчочках цяклі брудныя слёзы.

— Вось гад! Рэксік! Які ты гад!

— Я ж казала табе, даглядаць жывое стварэнне — дужа цяжкі клопат.

Наступным днём Ціша аддаў другое куранятка сваёй настаўніцы. У яе такіх куранят быў цэлы статак.

# Рыбалка

Стары падручнік матэматыкі за трэці клас, з пажаўцелымі старонкамі, рудой выцвілай вокладкай, беражэ на левым абароце тытульнага ліста — нічым іншым не запоўненым полі — незаконна пралеглыя радкі каравага дзіцячага почырку з памылкамі. Вось такі дыялог:

«Воўка! Пойдзем у среду на рібу?» — «Паглядзім яшчэ…»

Ціша і Саўчок дамовіліся сустрэцца, каб пайсці на сажалку вудзіць рыбу. Ад самага ранку Ціхан распакладзіў снасці сярод прахаднога пакою, чым дужа напружваў сваіх сямейных. Ім прыходзілася асцярожна перасоўваць ногі, бы на лыжах, каб не падчапіць кручок, альбо па-буслінаму жаргаць між дробязі, не жадаючы заблытацца ў лясе. Нарэшце Ціхан скруціў лёску на катушку, крукі сабраў, паскладаў паплавы ў бляшаначку з-пад ледзянцоў: сябра ўсё няма.

Надакучыла яму чакаць. Ціхан пайшоў насустрач. А Ваўчок тым часам якраз і прабіраўся да яго двара агародамі — размінуліся.

— Цішка, хутка? — запытаў сябрук, уторкнуўшы галаву ў дзверы, не пераступаючы парога, гатовы адразу рушыць на сажалку.

— Ён па цябе пайшоў. Добрай раніцы.

— Здрасці, — апамятаўся Вова. — Пачакаю тут.

Ён паляжаў на канапе ў дзіцячым пакоі, пагартаў кніжкі, паглядзеў мульцік, згадзіўся папіць чаю, прысеў за стол пасмакаваць перапечак — сябра ўсё няма.

Нарэшце адчыняюцца дзверы — на парозе ўз’юшаны, чырвоны ад крыўды Ціхан.

— Нічога сабе прыстроіўся! Я там па шыі ад яго мамкі палучаю, а ён чаі п’е.

Маці Вовы прыйшла з начнога дзяжурства ў бальніцы, прылегла адпачыць, і тут хтосьці забарабаніў у дзверы. Пайшла адчыняць.

— Я пастукаў, пастукаў — ніхто не рэагуе. Думаю, пайду праз двор, там у вас заўсёды адчынена. Не. Замкнёна. Стаў стукаць у заднія дзверы. А сам мяркую, напэўна трэба бегчы назад: туды пайшлі адчыняць. Прыбягаю, ляпаю — нікога. Паспрабую ў акно твайго пакойчыка пабарабаніць — так я разважаю — магчыма спіш крэпка. Б’ю, б’ю — нуль увагі. Успомніў: пры ўваходзе працуе кнопка, я ж магу пазваніць — чутней будзе. Пераходжу туды. Цісну-цісну — чакаю — нікога! Мусіць, думаю, пайшлі заднія дзверы адчыняць, пакуль я сюды перабіраўся. Пабег у заднія, давай калаціць у фортку. Ніхто не адчыняе. Бегаў-бегаў тудысюды. Раптам як выскачыць твая мамка, як зазвярэе на мяне: «Што ты тут ляпаеш ва ўсе дзверы? Мне цэлы дзень за табой па хаце лётаць, ці што?»

# Памочніца

Мама вечарам пасля работы ўзялася шыць сукенку. Яна разлажыла новую тканіну на падлозе. Дастала выкрайкі, вялікія партняжныя нажніцы, шпулькі з ніткамі, мел, іголкі.

Выкрайка — гэта папяровая форма сапраўдных дэталяў, з якіх будзе потым сшывацца вопратка. Разглядзіце ўважліва сукенку, спадніцу ці блузку. Яны маюць шмат вытачак і швоў, розных зборак, складак, каўнерык, пояс і яшчэ нямала розных дэталяў, без іх немагчыма сшыць адзенне. Каб без памылкі раскроіць матэрыял, мадэльеры спачатку падрабязна разлічваюць на паперы новы фасон. Папяровыя дэталі крэсляць лініямі і рысачкамі рознага колеру. Так прасцей разабрацца, дзе швы, дзе разрэзы, дзе вытачкі, дзе запас ці кант. Гэтыя папяровыя формы (напрыклад, рукаў) кладуць на тканіну, абводзяць па краях мелам і выразаюць. Атрымліваецца такая ж дэталь, толькі цяпер ужо з тканіны.

Паступова дэталі адну з адной злучаюць для прымеркі. Фастрыгуюць — гэта значыць, іх ледзь-ледзь сшываюць, каб лёгка, пры неабходнасці, можна было паправіць. Пасля таго, як падгоняць усе дэталі да ладу, сшываюць накрэпка. Атрымліваецца сукенка, жакет ці спадніца. Вельмі складаны занятак — шыць вопратку!

Мама выразала неабходныя дэталі, заставалася сшыць іх да прымеркі, тады атрымаецца новая сукенка. Раптам у доме зазваніў тэлефон. Мама пайшла пагаманіць у вітальню, дзе на маленькай палічцы стаяў тэлефонны апарат. Чатырохгадовая Лена засталася ля раскроенай сукенкі адна.

Калі вярнулася да работы мама — шыць не было чаго: на падлозе ляжалі роўныя палоскі, кругі і квадраты з матэрыі.

— Мамачка, я тут табе ўсё падраўняла. А то яны ў цябе атрымаліся не дужа роўныя, іншыя дык і зусім крывыя былі.

# Калькулятар

Раней не было камп'ютараў, не было і далькажыкаў (мабільных тэлефонаў.) А вось электронныя калькулятары ўжо сталі паяўляцца. Спачатку іх можна было бачыць толькі ў дарослых, чыя прафесія звязана з неабходнасцю рабіць розныя падлікі і рахункі. Потым калькулятары распаўсюдзіліся. Бо заўважылі людзі, што калькулятар — вельмі зручная рэч! Можна штосьці лёгка падлічыць без алоўка і сшытка, дастаўшы маленькі простакутнічак з кішэні.

Лена яшчэ не хадзіла ў школу, але магла чытаць і нават лічыла да сотні. Яна ўмела складаць і мінусаваць, а вось дзяліць і множыць яшчэ не ўмела.

Лена выпрасіла ў таты новенькі калькулятар і паспрабавала кнапіраваць розныя знакі. Праверыла лічбы. Не паспееш задумаць, як яна выскоквае ў вузенькім акенцы. Прыемна ціскаць мяккія пупачкі. Лена пагуляла з электронным апаратам, потым сумная падышла да бацькі і кажа:

— Як шкада! Такі харошанькі калькулятарчык! Амаль усё лічыць…

— Дык чаму — шкада?

— Шкада, не ўсё можна рашыць.

— А што б ты хацела?

— Паглядзі, тут і «сто» — ёсць, і «памножыць» — ёсць. А вось «У» — няма.

— Навошта табе «У»? — здзівіўся бацька.

— А як жа іначай запытацца, колькі будзе: «Сто памножыць у сто»?

# Сястрычка

Бягуць гады. Ужо пайшла ў першы клас і Лена. У іх сям’і з’явілася новае дзіцятка, сястрычка Ганка. Цяпер яна вучыцца поўзаць, хадзіць, размаўляць. Яна нават умее круціць педалі таго трохколавіка, што стаяў без патрэбы ў хляве, за які некалі разгараліся гарачыя баталіі між братамі Жэнькам і Цішам. Яго зноў прынеслі, памылі, і Ганка ганяе на ім па калідоры.

— Скажы, Ганнача, веласіпед.

— Лісіпед, — старанна выгаворвае малая.

— Не. Прагавары кожны склад: ве-ла-сі-пед.

— Лісіпед, — адмахваецца абы-як на гэты раз дзяўчынка.

— Ну пастарайся, дачушка. Ве-ла-сі-пед.

— Адыдзіся, мама, ато лісіпед атопціць!

Прыйшоўшы з садка, яна камандуе на манер выхавацелькі: «Дзевацькі — на гасёцькі! Мацікі — у лякууну!»

Ёй наогул падабаецца роля кантралёра і выхавацеля. Старэйшым дзецям ад яе перападае іншы раз.

— Мама, а Лена зік паказііт.

— Што гэта такое — зік? — мама добра разумее, што гаворка пра язык ідзе, ды хоча, каб Ганка словы выгаворвала як трэба.

— Ну — зік! Такі — ом-м, — паказвае свой. — Ясьна?

— І ты мне вось паказваеш язык. Я ж не крыўдую.

— Мама, а Лена пліёця.

— Яна сама на мяне плюнула першая.

— Чаму ты плюешся? — пытаецца мама ў Ганкі.

— Ой, ты такая міяя, маядзец мамацька! — загаворвае зубы хітруха.

— Мама, Ціська мацік даляко кінуў газін-дзеі і зязівея там.

— Што? — не зразумела мама.

— Ціська мацік б’ёсій газін-дзеі і зязівея там!

— Нічога не разумею. А што гэта так барабаніць на ўсю вуліцу?

— Дык я зі і казяя ціба! Ціська ма-цік кі-нуў газін-дзеі і зязівея там!

Сігналізацыя зазвінела ў магазіне ад таго, што мячыкам папалі ў дзверы.

Ганка гуляе ў бальніцу з лялькамі. Уколы, бінты, аналізы. Выпівае ваду са сваіх пляшачак, быццам мікстуру, сама замест хворых лялек. Успамінае раптам, што «брала аналізы».

— Ой! Тут «мача» стаяла, а я выпіла! А, затое яна палезная.

# Дзядуля

Гэтай вясной групу садка, куды ходзіць Ганка, разлучылі, частку старэйшых дзяцей перавялі ў другую залу. У новай групе апынулася і Ганка. Незнаёмыя дзеткі, незнаёмая выхавацельніца, незнаёмая няня.

Мама прыйшла вечарам па сваю дачушку, а ў яе слёзкі на вачах.

— Ты сумавала?

— Скуцяя.

— Па сваёй няні?

Ганка круціць галавой — не.

— Па дзетках?

— Не.

— Табе тут не падабаецца?

— Па ціба скуцяя, мамацька.

Ганка паведаміла, што ў новай групе садка ім расказвалі пра «Ленінага дзедушку». Мама паправіла — «дедушка Ленин».

— У цябе, Лены і Цішы адзін дзядуля, яго завуць Фёдар. Дзядуля жыве ў Глыбокім. А вам расказвалі не пра Ленінага, а пра Леніна — гэта такое імя.

У Ганкі дзіўны характар. Яна спачатку з усімі згаджаецца і так паслухмяна ківае галоўкай, маўляў, я ведаю, я разумею, мамачка. Сама ж застаецца пры сваёй думцы. Так і з «дзедушкам». Яна шматкроць паўтарала Лене, што ім у садку распавядалі пра «Ленінага дзедушку».

Мама яшчэ не раз спрабавала патлумачыць ёй, што дзядуля тут ні пры чым. І Ганка нібы супакойвалася, не ўспамінала, не хвалілася новымі ведамі. Аднойчы пабачыла ў буквары партрэт Леніна.

— Лена! Лена! Бягом сюды! Вось твой дзедушка!

# Ключ у боціку

Некалі раней, даўно-даўно, чалавеку зусім не патрэбны быў замок. Людзі нічога не збіралі ў запас, не складалі поўныя шафы вопраткі і абутку. Не мелі шмат лішніх рэчаў, цацак. Ежы здабывалі толькі на адзін дзень. Таму красці ў іх не было чаго. Напэўна таму не было і злодзеяў. Але шмат часу мінула. Зараз мы сталі бязмежнымі ў сваіх жаданнях. Маем мноства сукенак, лішняй вопраткі, скрыні посуду, мільёны непатрэбных дробязяў. Мы нават ежу, якой нярэдка з'яўляюцца забітыя жывёлы, выкідваем, сапсаваўшы, вон.

Зараз чалавеку не абысціся без замкоў і ключоў. Трэба зберагаць «багацце».

Маленькая Ганка яшчэ не вучыцца ў школе, але ўжо ўмее пісаць амаль усе друкаваныя літары, асобныя словы і нават простыя сказы. Магчыма, яна наступным вераснем упросіць маму аддаць яе ў першы клас. Але, хутчэй за ўсё, цэлы год прыйдзецца хадзіць у садок. Першага верасня Ганка будзе яшчэ лічыцца малой. А вось у другой палове месяца ёй споўніцца, як і трэба, каб запісалі вучнем, роўна шэсць гадоў.

На вуліцу Ганку адпускаюць гуляць без нагляду, ды вось зачыняць дзверы на ключ яна пакуль што не ўмее. А ёй хочацца па-дарослому выйсці з кватэры, крутануць ключом у шчыліне і бегчы ў двор да сяброўак, матаючы ключом, пачэпленым на вяровачку.

Ганка ледзь дацягваецца да замочнай адтуліны, не заўсёды ўдаецца ёй торкнуць ключ у дзірачку з першага разу. Да таго ж сам ключ перакруціць у замку дужа цяжка і балюча пальцам.

— Трэба ўсё ж навучыць цябе карыстацца ключом, — кажа мама. — Хутка ў школу выпраўляцца. Як без ключа?

Наступным днём сяброўкі паклікалі Ганку гуляць у двор. Анюта крыкнула ў фортку — іду, чакайце, сама села пісаць запіску маме.

Потым па-дарослаunion замкнула дзверы. Паставіла на самым відным месцы перад дзвярмі на маленькі палавічок татаў чаравік, укінула ў яго ключ і старанна прыляпіла на дзверы запіску: «Мама я пшла гуляць ключ у боцінке».

# Турпаход

Ганка прыбегла з вуліцы. Паліто на ёй было зашпілена з лішнім гузікам пад каўняром і лішняй пятлёй знізу полы. Ганка дастала з хованкі скрутак. У фольгавай абгортцы ляжала некалькі кавалкаў шакаладу. Пералічыла іх некалькі разоў — збівалася: ці не паменела выпадкам? Перасыпала скарб на сподачак, наліла з чайніка астылага вару ў любімую шклянку.

— Цішка дома? — запытаўся аднакласнік і прамым ходам рушыў у пакойчык, не чакаючы адказу на пытанне. Мімаходзь ён гопнуў на вагі, што стаялі ў калідоры між ваннай і туалетам.

— Цішка дома? — для прыліку спытаў другі аднакласнік, які ішоў след у след за першым, і таксама з разгону гопнуў на вагі.

Стрэлка вагаў не паспела стаць на нуль, як ступіў трэці. Чацвёрты падрульваў.

Ганка не звяртала ўвагі ні на гасцей, ні на пытанні, смачна сёрбала вар. Нарэшце з’явіўся Ціша.

— Палаткі мушу насіць адзін я? Турысты кантралююць стабільнасць вагі.

Ціша скінуў у кучу ля парога цюкі з палаткамі, кацялкі, рукзак. Зірнуў на кухню:

— Ленка дома? Мы яе ў паход бяром.

Ганка, безудзельная да іх клопатаў, прыкрыла далонькай сподак.

— Малая яна яшчэ. Ногі забаляць пешы ісці, — паспрабаваў пярэчыць Дзімка.

— У Лёшкі вунь які рукзак вялікі! Зверху пасадзім — данясе, — жартаваў Ціша.

Падаспела Лена. Убачыла ля парога паходную амуніцыю, захвалявалася.

— А я? А мяне возьмеце з сабой, Ціша? Ты абяцаў.

— Пойдзеш, — па-дзелавому адказаў брат.

Заспакоеная Лена шмыгнула ў кухню. Коткай падсела да Ганкі, хітра зірнула ў вочы, абняла, тэатральна прынюхалася да шакаладу, чмокнула ў шчочку.

— Пасля… — адхінулася малая ад яе абдымкаў і зноў прыкрыла сподак рукой.

— Ну ж паглядзім!

Праз два дні агаладалыя турысты вярталіся дамоў. Вясковай дарогай паволі цягнуўся шнурочак падлеткаў.

— Мама! Мы мех капчонкі знайшлі! — распавядаў вечарам Ціша. — Ідзем мы, ідзем. Есці хочацца, страх! Усе нас абагналі. Апошнімі з-за Ленкі цягнемся: я, Светка, Дзімка, Лёха, Танька Гаўрыльчык. Гляджу, на дарозе пакет — а з яго два хвасты тырчаць. Я хвать за іх — дык Лёшка адзін вырваў з рук. Я ў глыбіню пакета зірнуў, а там яшчэ хвост. Дзімка падбягае — цоп! Тут Света з Танькай падышлі, яшчэ адзін выцягнулі. Дык мы якраз класна перакусілі. Мусіць, хтосьці па дарозе з магазіна згубіў вэнджаныя селядцы.

Правая рука Ціхана.

маршчыны

ажёг

маршчыны

царапкі

рана

ажёг

укус Дэксіка

ажёг



# ЮСТЫН І ГАЦІК НА ВАКАЦЫЯХ

## Тэлефонная размова

Калі Юстыну было два з паловай гады, ён упершыню застаўся адзін у сваёй бабулі. Яго прывезлі з Мінску бацькі і сказалі: «Мы хутка па цябе прыедзем — не хвалюйся». Слова «хутка» нічога для хлопчыка не значыла. Толькі дзверы зачыніліся за татам і мамай, Юстына ахапіў невыносны жаль, сум, зрабілася маркотна і трывожна. Бабулю сваю ён бачыў рэдка, паспяваў забываць раз да разу, і цяпер яна здавалася хлопчыку незнаёмай, чужой. Адчаю свайго Юстын не паказваў, нават не плакаў. Але не размаўляў з бабуляй, не ўсміхаўся на яе жарты, не даваў рукі, як гулялі па вуліцы. Ён пільна ўглядаўся ў твар кожнай маладой жанчыны, каб адшукаць у ім напамін пра маму. «Мама» — ціхенька вымаўлялі яго вусны і з'яўлялася ўсмешка, калі цёця падабалася Юстыну.

Неяк бабуля падазвала яго да тэлефона, дала у руку трубку.

— Зараз будзе з табой гаварыць мама.

Хлопчык узрадаваўся, ды не разумеў: дзе яна, мама? Сапраўды, пачуў родны, мілы мамін голас: ён пра штосьці пытаўся, казаў пяшчотныя словы ў вуха, але! Дзе ж яна сама?!

— Мам, а ты дзе?

Мама гаварыла, гаварыла з ім, Юстын не дужа ўлоўліваў сэнс гаворкі. Куды больш яго хвалявала тое, што мама хаваецца ад яго.

— Мам, чаму я цябе не бачу?

Хлопчык нейкім дзіўным ціхім тонам стаў зваць: «Мама, ідзі сюды. Бачыш вунь тую кніжку? (Ён паказаў пальцам на кніжку, што ляжала на стале.) Дай мне яе». Так, падалося яму, можна выманіць маму з таемнага ўкрыцця. Яна не выходзіла…

Потым бабуля спрабавала растлумачыць, што такое тэлефон: хлопчык не слухаў, пайшоў да акна і доўга глядзеў на вуліцу.

# Футбол

Усхваляваны Юстын прыбег з вуліцы, дзе старэйшыя хлопчыкі на мурагу ў панадворку ганялі футбол. Ніхто не пажадаў узяць Юстына ў сваю каманду.

— Ты яшчэ малы, — паблажліва адказалі яму.

— Бабуля, колькі мне гадоў? — запытаў Юстын, мімаходзь зірнуўшы ў кухню, пакуль таропка бег па калідоры.

Не чакаючы адказу, ён хуценька ўлёгся на канапу як быў: у куртачцы, шапцы, боціках. Заплюшчыў шчыльна вочы, склаў рукі па швах.

Бабуля заглянула ў спальню.

— Пяць, — здзіўлена адказала яна.

Толькі хацела запытацца, чаму ўнук лёг у вопратцы, пачула:

— Ідзі, бабуля, я сплю. Ідзі.

Праз нейкую хвіліну Юстын ужо нёсся на двор з гарачай надзеяй у твары. Аднак не прайшло і пяці хвілін, як ён вярнуўся.

— Бабуля, колькі мне гадоў? — на хаду зноў пытаўся хлопчык.

— Дык пяць, — паўтарыла бабуля, здзіўлена праводзячы ўнука позіркам.

Юстын, відавочна разгублены і заклапочаны, зачыніў за сабою дзверы ў спальню, лёг на канапу. Усё паўтарылася і на

трэці раз. На чырвоным ад крыўды і расчаравання твары было столькі горычы і болю — здавалася, вось-вось слёзы пырснуць з вачэй. Юстын трымаўся з усёй моцы.

— Бабуля, ну а зараз колькі мне гадоў? — дрыжачымі вуснамі запытаў ён з надзеяй наступным разам.

— Пяць з паловай, — рашыла ўдакладніць бабуля.

Гэты адказ Юстыну яўна спадабаўся. Ён схапіў са стала акраец хлеба, адразу ж выбег на вуліцу, нават не зачыніўшы за сабой уваходныя дзверы.

Бабуля зірнула на бацьку Юстына.

— Што гэта з ім робіцца такое?

— Мама, ты сама раніцай за сняданкам казала, што дзеці растуць вялікімі, калі добра спяць і добра сілкуюцца. Вось ён і «расце», каб старэйшыя хлопцы ўзялі гуляць у футбол.

## Заўсёды трэба добра падумаць

Юстын і яго малодшы браток Гацік гулялі з салдацікамі ў вайну пасярод пакойчыка. Гаціка звалі Ігнацій. Раней свайго імя ён не вымаўляў добра, таму і дарослыя часта звярталіся да яго — Гацік. Так і павялося, хоць размаўляў трохгадовы хлопчык зараз зусім не кепска.

Дзеці раскідалі цацкі па ўсім пакоі. Бабуля ледзь не завалілася, калі адзін з нінзяў трапіў ёй пад пяту. Бабуля пачала сварыцца, запатрабавала зараз жа сабраць войска з падлогі і выпраўляцца вячэраць.

— Я есці не хачу, і Юстын не будзе, — запэўніў Ігнацій.

— Я не люблю грэчку, Ігнат яе таксама не стане есці, — гэта быў звычайны адказ братоў. Калі іх звалі спаць, хтосьці адказваў — я не хачу спаць, і брат не пойдзе. Так праяўлялася дзіцячая салідарнасць.

— Хутчэй за стол, — настойвала бабуля.

Унукі нават вухам не павялі. Занятыя боем, яны ўсё грамчэй і грамчэй тарахталі зброяй, узрывалі масты, перакульвалі ваенную тэхніку ў кювет.

— Што ты топчашся па полі бою?! — абурыўся Юстын, калі бабуля зачапіла падэшвай тапка нейкую фігурку з абароннага флангу.

— Ах вы нягоднікі! Я ШТО сказала? — закрычала бабуля.

— Ну ўсё. Табе — канец! — папярэдзіў раззлаваны Гацік бабулю.

— Зараз як пазавём робатаў і дыназаўраў — застануцца ад цябе адны костачкі, — стаў страшыць камп'ютарнымі пачварамі Юстын.

Гацік падняўся з падлогі, стаў побач з братам.

— І кроўка, і мяска, — дадаў ён, гледзячы на бабулю спадылба, у знак згоды і еднасці схапіўшы брата за руку.

Раптам Гацік замоўк, спалохана зірнуў на Юстына.

— А можа, дыназаўраў не трэба зваць? — запытаў ён няўпэўнена.

— Чаму? — не адразу зразумеў раз'юшаны сваркай брат.

— А што, як яны і нас з'ядуць?

# Бізнесоўцы

Насупраць бабулінай кватэры жыў Лёшка, аднагодак Юстына. Ніжэй паверхам месцілася кватэра яшчэ аднаго Лёшкі. Скончылі хлопчыкі другі клас. Лёшкі хадзілі ў Падсвільскую школу. Юстын з малодшым на тры гады братам толькі на вакацыях і па святах прыязджалі з Мінску ў пасёлак. І тады яны сябравалі ўсе разам, калі не сварыліся.

Хлопцы марылі аб бізнесе, ім карцела разбагацець, мець шмат грошай, каб не пытаць іх у бацькоў, а запраста выцягваць са сваіх кішэняў. Бо зусім побач з домам, праз невялікі стары сад (у ім навакольныя мальцы абтрасалі з вялізнага дрэва яшчэ не спелыя дулі) месцілася крама «Руно». Там прадавалі розныя

ласункі. У гэту краму штодня бегалі хлопчыкі па марозіва, цукеркі, чыпсы, колу.

— Давайце пойдзем працаваць, — прапанаваў хтосьці з іх.

— Нас не прымуць на работу, — заключыў Лёшка з першага паверху.

— Факт! Скажуць — малыя, — падтрымаў Лёшка другі.

— Маглі б аб'явы развешваць, — прапанаваў Юстын.

— Якія аб'явы? — здзівіліся хлопцы. — За гэта грошай не плоцяць!

— Плоцяць! — заспрачаўся Юстын. Ён не падумаў, што ў маленькім пасёлку дастаткова адной-дзвюх інфармацыйных дошак на ўсіх жыхароў. — У нас ва ўсіх пад'ездах — дошка, абклееная аб'явамі, за кожную паперку штосьці налічваюць з грошай.

— Дык то ў вас. Там і працуй.

— А давайце бутэлькі збіраць.

— Як? Дзе? — не зразумеў малы Ігнацій.

— Хоць дзе. Паўсюль.

— А дзе ты бачыў, каб паўсюль ляжалі бутэлькі? Без нас пазбіралі.

— Мы раней уставаць будзем і паспеем першымі сабраць. Ля возера бачыў.

— Давайце!

— Клас!

Так і дамовіліся: заўтрашняй раніцай у іх пачынаецца працоўны дэсант. Хлопцы зарабляюць грошы!

# Цяжкі хлеб

Ранкам з дзелавым настроем і сур'ёзным выглядам сябры рушылі на здабытак. Кожны нёс пад пахай торбу з поліэтылену. Ігнацій таксама хацеў прыхапіць у свае рукі асобны пакет, ды Юстын забараніў.

— Насіць поўную бутэлек сам будзеш? Ці мне за дваіх цягаць? Кідай у маю!

Хлопчыкі дарэмна валэндаліся па кустах і завуголлях аж да самага абеду. Не ў кожную торбу выпала кінуць па бутэльцы. Нарэшце змовіліся збіраць у «адзін кацёл», то да вечара яшчэ шэсць бутэлек знайшлі. Затое вызначылі «грыбное» месца. Ля кафэ ў скверы збіраліся дарослыя мужчыны, там пад дрэвам яны пакідалі іншым разам пустыя бутэлькі. Наступным днём «бізнесоўцы» неслі дамоў пасля доўгіх пошукаў два цяжкія пакеты шклянога посуду. Хацелася ім хутчэй збыць здабытак, ды, пачуўшы іх размову, дзядзька-мінак пасмяяўся.

— А! Хлопцы. Так у вас і возьмуць.

— Чаму — не?

— Трэба бутэлькі вымыць і паздзіраць этыкеткі.

Гэта справа падалася зусім не такой прывабнай і цікавай, як збор, да таго ж два Лёшкі адразу адмовіліся, заявілі, што іх мамкі не дазволяць прынесці ў кватэру гэтыя брудныя торбы.

— А мы запытаемся ў Лены — яна нам усё дазваляе, — абнадзеіў Ігнацій.

На гэтых вакацыях Юстын з Ігнатам знаходзіліся пад наглядам бацькавай малодшай сястры Лены. Юстыну Ігнатава думка не так лёгка далася, як брату. Ванны пакой зусім невялікі, вольную ад конаўкі палову займае ўмывальнік і пральная машына, так што змясціцца ў ім зможа толькі адзін чалавек. У такім выпадку бутэлькі перамываць прыйдзецца яму аднаму.

Лена дапамагла перакласці здабытак у ванну, наліла вады з мылам, і Юстын два дні распраўляўся са складаным заняткам. Нарэшце чыстыя бліскучыя бутэлькі роўнымі радамі палеглі ў новыя пакеты. Хлопцы пабраліся па два на адну паклажу і панеслі посуд у пункт прыёму.

Аказалася, такога пункту ў пасёлку не прадугледжваецца. Трэба прасіць загмагаў прадуктовых крам, каб узялі бутэлькі. Магазінаў у пасёлку не шмат, іх прадаўцы аднолькава і пачаргова адфутболілі бедалаг-бізнесоўцаў ад прылаўка. Пашкадаваў малых хтосьці з пакупнікоў, падказаў занесці бутэлькі ў нарыхтоўчую кантору. Ёй лічылася крама, што месцілася над ручаём у рагу гандлёвага цэнтра. Ногі-рукі хлопцаў дрыжэлі ад цяжкай

ношы, на пальцах уздуліся пухіры. Да таго ж блізіўся вечар — канец працоўнага дня, дзверы маглі зачыніць перад самым носам. Вырашылі давесці справу да канца пасля выхадных, у панядзелак.

Дачакаліся. Хлопцы нецярпліва пераступалі з нагі на нагу пад зачыненым ганкам. Краму адамкнулі ў дзевяць. Не дужа давольная лішнімі клопатамі прадавачка буркнула.

— Нясіце ў кладоўку. Выстаўляйце на агляд.

Хлопцы ў прадчуванні блізкага заробку старанна выконвалі патрабаванні.

— Усё прыняць не магу — скрынь пустых няма! Вазьму як шклабой.

— Добра, — згадзіліся ўзрадаваныя хлопцы, не разумеючы сэнсу сказанага.

А значылі словы жанчыны тое, што бутэлькі яна ўсё ж пакіне сабе, толькі ў шмат разоў танней заплоціць ім.

Калі хлопцы сталі ля прылаўка з надзеяй у вачах, ім аб'явілі.

— Во тавар — выбірайце. Грашамі не выплочваем.

Выбраць на азначаную «суму» не было чаго. Прадавачка падлічыла штосьці ў сваім калькулятары, агледзела палічкі, і падала ўрэшце кожнаму з хлопцаў па «Ралтоне».

# Характар

Восень. Прыгожая, цёплая, з яркім, ды не пякельным сонцам, з лагоднымі бязветранымі дзянькамі. Пачынае жаўцець ліст на дрэвах, але ён доўга яшчэ будзе трымацца за галінкі. Пакуль не схопяць абцугамі першыя маразы ўсё насычанае вільгаццю, сапсуюць бадзёры выгляд зеляніны — зморшчаная яна апаўзе, павісне, счахне. І вось ужо моцны вецер лістапада наляціць бурай, каб з драпежніцкай сілай абарваць апошняе хараство восені. А пакуль… Гронкі спелай рабіны красуюцца на зеленавата-рудых пялёстках рашэцістага ліста. Да самых лютых маразоў кароткім светлавым днём зімы, калі толькі поўднем асмеляцца сарвацца

з хованак вераб'і, галубы, сініцы, будзе прызыўна гарэць рабіна, будзе шчодра частаваць сваімі салодка-гаркаватымі ягадамі адважных на нашы халады зімовых птушак.

Вялікую крыўду нясе чалавек дрэвам, птушкам, усёй прыродзе, ламаючы без патрэбы галінкі, абдзіраючы кару, выбіраючы зашмат вясновага соку з бяроз і клёнаў, латошачы камбайнамі ягады з лісцем і завяззю.

А хлопчыкі ўвосень гвалтоўна калечаць рабіны, каб праз зрэбныя самапалы (гумовы напальчнік напяты на трубку, выразаную з дзядоўніку) пляваць — хто далей, альбо ў каго пляміна выйдзе спрытнейшай.

Класныя плямы з рабіны чорнай і чырвонай выходзяць на белых, нядаўна пафарбаваных сценах пад'езда! Ф'юць — і клякса! З пырскамі дробных пялёсткаў вакол сарцавіны — сапраўдная кветка астры! З чорных ягад выйдзе прыгожага фіялетавага колеру, з рабінавых — вымалёўваюцца пялёсткі памаранчавa-жоўтых адценкаў. Бывае, плямы нагадваюць якіясь фігуры ці каго з мульцяшных герояў. Яшчэ цікавей параўноўваць — чый жа лепшы?

Тут выбягае з кватэры дзядзька — хлопцы наўцёкі. Дагнаў.

— Гэта не я, — першы.

— Я не страляў, — другі.

— Я больш не буду. Праўда. Чэснае слова — не буду! — трэці.

— Я толькі на пол, на сцяну ніколі не пляваў, — чацвёрты.

Мужчына адбірае самапалы, рве гуму, ламае дзядоўнікавыя трубкі.

— Гм! Ну і што — я сабе новую зраблю! — пяты.

# Верталёцік і Тода

На гэтых старонках прамільгнулі героі некалькіх пакаленняў: ад бабуль з дзядулямі да праўнукаў. І вось выраслі Ціша, Лена, Ганначка, самі нарадзілі дзетак. Той хлопчык Ціша зараз аб’ехаў палову свету: Карэю і Кітай, Індыю, Бахрэйн, Нігерыю, Узбекістан і Польшчу. Працаваў таксама ў Турцыі і Гане, Бангладэш. Быў па справах у ЗША, Анголе, Егіпце, Іране. Камандзіраваўся ён і ў Казахстан, Сьера-Леонэ, Саудаўскую Аравію… Юстын і Гацік — сыны Ціхана. Лена нарадзіла дачушку Машу, Ганка — Фёдара. Зараз ужо іх дзеці перажываюць свае першыя ўражанні і стасункі з дзіўным боскім светам.

Калі Лена нараджала сваю дачушку, яна з прымхлівых памкненняў загадзя нікому не сказала, як назаве дзіця. Дык вось маці Лены пабачыла сон, у якім да яе прыйшоў даўна памерлы тата (той самы дзед Фёдар з Глыбокага, чый аўтамабіль усе машыны абганялі) і паказаў на сваёй далоні імя: МАРЫЯ — так звалі яго маці. І, як аказалася, так Лена таемна называла сваю яшчэ не народжаную дачушку. Маша расце шустрай і цікаўнай дзяўчынкай, бегае бесперапынна: у адзін бок заверне, у другі. За гэта суседская бабуля празвала яе Верталёцікам.

Сын Ганкі Фёдар пакуль што вымаўляе сваё імя — Тода альбо Седзя. Ён на летніх вакацыях у вёсцы прачынаўся раней за ўсіх і бег будзіць братоў, якія дальнабачна з вечара зашчаплялі дзверы на кручок, каб раніцай іх не будзілі…

— Ісьцін! Акый дзеі! Гат (Ігнат) акый дзеі!

Але хлопчыкі, набегаўшыся за дзень, спалі крэпкім салодкім сном, ні кроплі не зважаючы на патрабаванні.

На летніх вакацыях усе яны: Юстын, Гацік, Мар’я і Тода жывуць у бабулінай кватэры ў пасёлку Падсвілле на Віцебшчыне. Яны вельмі любяць вёску, лес, возера, суседскага коціка Васю, які без дазволу і запрашэння па-гаспадарску пранікае ў кватэру праз акно па балконе аж на другі паверх. Любяць поле, кветкі, любяць слухаць непаўторныя гукі — спевы птушак, цвыркатан-

не конікаў, гуркат жабак, любяць цікаваць у раўчуку трытонаў і тоўстых жвавых апалонікаў…

Гэта тая «дробязь», без якой чалавеку немагчыма адчуваць сябе шчаслівым на зямлі. Гэта той КОСМАС, які сілкаваў некалі нашых прашчураў, які будзе сілкаваць і нашых праправраўнукаў. Мы павінны усімі сіламі зберагчы для іх гэты дзіўны свет.



# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Андзілеўка** Людміла

КЛЮЧ У БОЦІКУ
(З жыцця маленькіх чалавекаў)
*Чытанка для дзяцей і дарослых*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Іваноў*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *В. Іваноў*

Падпісана да друку 27.03.2017. Фармат 60×84 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 2,8. Ул.-выд. арк. 1,27.
Наклад 99 ас. Зак. 125.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.